# Трыццацілецьце Беларускай Эміграцыі ў З.Ш.А.

Некаторыя чытачы зрабілі мне закід, што мой артыкул, „Трыццацілецьце беларускай эміграцыі ў ЗША", зьмешчаны ў 14-м нумары газэты *Беларускі ЧАС* не адлюстроўвае навет часткі жыцьця й дзейнасьці нашай эміграцыі ў ЗША. Бязумоўна, гэта праўда. Мэтаю майго кароткага артыкулу было перадусім адзначыць гэтую падзею, зьвярнуць спэцыяльную ўвагу на вялікае значэньне гэтай гістарычнай даты.

Іншая рэч, ці нашая эміграцыя належна выкарыстала трыццацілетні пэрыяд сваёй працы на чужыне ў змаганьні за людзкія правы свайго народу, які церпіць нялюдзкі прыгнёт ад сваіх акупантаў ?

Далейшай мэтай майго артыкулу – выказаць хоць найважнейшыя аспэкты нашых асягненьняў грамадзка-палітычнага жыцьця, а адначасна зьвярнуць увагу на нашыя памылкі й недахопы.

Гісторыя беларускай эміграцыі ў ЗША ёсьць вельмі цікавай часткай агульнай беларускай гісторыі. Ейны 30-ці летні пэрыяд жыцьця да гэтага часу яшчэ ня быў напісаны й дасьледжаны. Толькі паасобныя фрагмэнты ейнага жыцьця можна знайсьці на балонках пэрыядычнай прэсы, ў некаторых выданьнях БІНІМ, у архівах арганізацыяў, часткова ў Архіве Фундацыі Імя Пётры Крэчэўскага.

Найбагатшыя архівы аднак маюць нашыя Царкоўныя Прыходы БАПЦ.

ЗНАЧЭНЬНЕ ЭМІГРАЦЫІ

Ніхто ня можа запярэчыць аб вялікім значэньні эміграцыі. Найбольшыя рэвалюцыі сьвету гэта – перадусім праца эміграцыйных цэнтраў, часам толькі невялічкіх эміграцыйных групаў. Сіла эміграцыі залежыць у першую чаргу, ад ейнай даметнасьці, арганізацыйнай структуры ды інтэнсыўнасьці працы.

Варта прыпомніць, што ўсе краіны, якія мелі моцныя эміграцыйныя цэнтры ў Эўропе й ЗША ў выніку Версальскай дагоды 1919 г. атрымалі сувэрэннасьць (Пальшча, Літва, Латвія, Эстонія, Чэхаславакія, Румынія, Баўгарыя й Югаславія).

Сяньня ў ваўсіх краінах сьвету йдзець узмажаная барацьба за свабоду, за вызваленьне чалавека ад каляніяльнага паняволеньня.

Працэс вызваленьня каляніяльных народаў Афрыкі заканчваецца.

Пасьля Паўдзённай Афрыкі яшчэ застаецца Ўсходняя Эўропа, так званы, Савецкі Саюз – „Саюз паняволеных народаў". Савецкі Саюз, як нам ведама – найбольш таталітарная краіна сьвету, куды вызвалеьньчыя ідэі прасякаюць цяжка але ўспрыймаюцца народам лёгка. Беларускі народ, які знаходзіцца ў самым цэнтры гэографічнай Эўропы зрабіўся чамусь найбольш маўклівым народам усяго Заходняга Сьвету. А чаму?

Мне здаецца, што гэтае сумнае й адначасна трагічнае зьявішча можна толькі выясьніць маўклівасьцю й пасыўнасьцю нашай эміграцыі.

– *К. Канцавы*

# Спатканьне Этнічных Групаў у Мічыгане

У сувязі з канфэрэнцыяю Рэспубліканскай Партыі на нацыянальным узроўні з удзелам найвышэйшых прадстаўнікоў Партыі ў часе ад 14 да 21 ліпеня 1978 г., адбылася вялікая сустрэча ўсіх этнічных групаў якую склікала Рэспубліканская Рада Нацыянальнасьцяў на Штат Мічыган.

Сустрэча адбылася 20 ліпеня ў RENAISSANCE CENTER пры ўдзеле шматлікіх прадстаўнікоў розных этнічных групаў і афіцыяльных чыньнікоў Рэспубліканскай Партыі.

Пяты паверх гатэлю быў адведзены на выстаўку розных экспанатаў, кніг і публікацыяў розных нацыянальнасьцяў, якія наглядна дэманстравалі тысячам гасьцей аб культурных дасягненьнях і багатай гістарычнай спадчыне рэпрэзэнтаваных этнічных групаў.

Сярод другіх нацыянальнасьцяў асаблівую ўвагу прыцягвала вельмі багатая й рознастайная беларуская выстаўка, якую зарганізаваў Беларускі Рэспубліканскі Клюб на Штат Мічыган На выстаўку складаліся беларускія вышываныя кашулі, блюзкі, вопраткі, розныя дзяружкі, вялікі выбар паясоў, ляляк, маляванак і дзераўлянай разьбы з ваколіц Палесься, Наваградчыны, Менску й другіх частак Беларусі. Была тут і блюзка, вышытая 75 гадоў таму назад маткаю Др. Уладзіміра Бакуновіча. Апрача таго на стале былі разложаны беларускія кнігі, розныя публікацыі ў беларускай і ангельскай мове, якія наглядна дэманстравалі цікавым наведальнікам аб нашай слаўнай і багатай гістарычнай мінуўшчыне. Беларускія ўдзельнікі гэтага спатканьня давалі дакладныя інфармацыі ўсім наведавальнікам і знаёмілі іх з культурна-палітычнымі аспірацыямі беларускай эміграцыі ў ЗША і ўсіх другіх Заходніх краінах.

Пры нагодзе трэба падкрэсьліць, што беларуская група была памешчана разам з другімі групамі паняволеных народаў у вялікай і прыгожа ўдэкараванай балёвай залі гатэлю. На падвышэньні былі пастаўлены сьцягі ўсіх нацыяў, а між імі й наш бел-чырвона-белы сьцяг займаў належнае месца.

У балёвай залі бязупынна адбываліся мастацкія выступы групаў, а сталы былі застаўлены ежаю й напіткамі паасобных групаў.

Беларуская група ўжо другі год прыймае актыўны ўдзел у гэтых спатканьнях маючы надзвычайна добрую нагоду пазнаёміць шырокія масы амэрыканскага грамадзтва й афіцыяльных чыньнікаў з дамаганьнямі беларускай эміграцыі для рэалізацыі нашых палітычных пастулятаў.

– *В. П.*

# З Жалобнай Хронікі Дэтройту

21 ліпеня г.г. неспадзяна пакінула гэты сьвет с.п. Барбара Сажыц, пакінуўшы сямью, крэўных і шматлікіх знаёмых у вялікім смутку.

Уся беларуская калёнія ў Дэтройце Міч. выражае Др. Язэпу Сажыцу з сямьёю найглыбейшыя спачуваньні з нагоды сьмерці ягонае жонкі, якая на працягу амаль 35 гадоў была вернаю й адданаю спадарожніцай ягонага жыцьця й разам з ім пераживала ўсі радасьці й клопаты супольнага спаўжыцьця.

Парафіяльная Рада й сябры Парафіі Св. Духа Б.А.П.Ц. жадаюць Др. Сажыцу з сямьёю перажыць гэтую вялікую страту ў пакоры духа й прымірэньня з вечнымі й непарушальнымі правамі Усемагутнага Бога.

Гэтая страта ёсьць ня толькі асабістаю стратаю сямьі памерлай, але й вялікаю стратаю для ўсіх беларускіх грамадзка-рэлігійных арганізацыяў, у якіх с.п. Барбара прыймала актыўны ўдзел,самаахвярна працуючы ў гэтых арганізацыях на працягу доўгіх гадоў.

С.п. Барбара Сажыц, з дому Мазуро, нарадзілася 17 сьнежня 1919 г. ў Літве, там і прайшлі дзяцінныя годы Барбары. Пазьней, разам з усёю сямьёю, пераязджае зпачатку да Ўселюба, а потым ў Наваградак.

Пачынаючы ад гэтага часу, маладзенькая Барбара ўліласе ў беларускае нацыянальнае жыцьцё і ніколі ўжо яго не пакінула.

Яна брала ўдзел у розных мастацкіх беларускіх групах, шчыра любіла беларускую песьню, ніколі не адмаўляла помачы ў арганізаваньні розных імпрэзаў ладжаных беларускім актывам у Наваградку.

Навагрaдак пакінула Барбара ў 1944 г. і заўсёды аб ім успамінала з вялікаю любоўю, бо там яна правяла годы свайго дзяцінства й там ёй прышлося бліжэй запазнацца з жыцьцём і праблемамі беларускага народу.

У Нямеччыне с.п. Барбара далей прадаўжала дзейнасьць на беларускай ніве; тут яна выйшла замуж за маладога студэнта-мэдыка ў Марбургу. Тут яна прыймала ўдзел у рознай культурнай дзейнасьці, сьпявала ў студэнцкім і царкоўным хорах.

Пераехаўшы з Нямеччыны ў З.Ш.А. Др. Сажыц з сямьёю пасяліўся ў горадзе Дэтройце, у якім прадаўжаў сваю лекарскую практыку а нябошчыца актыўна пачала працаваць у БАЗА, няраз будучы выбранаю ў управу Аддзелу.

Яна таксама многа прысьвяціла самаахвярнай працы й высілкаў у арганізацыі й разьвіцьці Парафіі Св. Духа БАПЦ ў Іст Дэтрoіт.

С.п. Барбара ня раз уваходзіла ў склад Парафіяльнай Рады, прыгожа сьпявала ў царкоўным хоры будучы яго вядучым альтам.

Ня гледзячы на стан здароўя, яна да апошніх дзён жыцьця прыймала актыўны ўдзел у рэлігійна-грамадзкім жыцьці беларускага асяродку ў Дэтройце, здабываючы й паглыбляючы праўдзівую пашану й сымпатыю ўсіх Беларусаў як з Дэтройту так і з дзугіх цэнтраў З.Ш.А. й Канады.

Пахавальнае бюро было перапоўненае шматлікімі сябрамі, прыяцелямі й знаёмымі памершай, якія прыбылі, каб аддаць апошнюю пашану.

Паніхіду 22 ліпеня адправілі: настаяцель Парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Клывэлэнд а. Грыгор разам з а. Максімам, настаяцелям Парафіі Св.Духа й протодыяканам а.Міхасём.



*Св. памяці Барбара Сажыц.*

У нядзелю 23 ліпеня пасьля Богаслужбы была адслужана Паніхіда па памершай – зноў Царква была перапоўнена знаёмымі й сябрамі, якія прышлі каб разьвітацца апошні раз з адыйшоўшай ад нас дарагой нам

*(працяг на 8-й бачынцы)*

# 10-ыя ўгодкі сьмерці Гэнэрала Францішка Кушаля ў Дэтройце

У нядзелю 28 травеня 1978 г. Беларусы Дэтроіту й ваколіц урачыста адзначылі 10-ыя ўгодкі сьмерці Гэнэрала Францішка Кушаля, арганізатара беларускіх вайсковых аддзелаў на бацькаўшчыне ў пэрыяд першай і другой Сусьветнай Вайны.

Напачатку ў Беларускай Парафіі Сьвятога Духа БАПЦ была адслужаная настаяцелям прыходу, айцом Максімам, поўная паніхіда па памёршым, на якой, асталіся ўсе прысутныя на нядзельнай Багаслужбе. Наступна ўсе прысутныя сабраліся ў залі прыходу, каб ушанаваць память вялікага змагара за незележнасьць беларускага народу.

Галоўна-Камандуючы Беларускіх Вэтэранаў, Др. Язэп Сажыц, прачытаў з гэтай нагоды рэфэрат на тэму бязупыннай дзейнасьці й змаганьня вялікага беларускага патрыёты, якім быў с.п. Гэнэрал Францішак Кушаль. Дакладчык пазнаёміў дакладна прысутных з багатаю біяграфіяю Гэнэрала Кушаля, прыпомніўшы аб усіх этапах яго дзейнасьці, і бязупыннай працы для зьдзейсьненьня ідэалаў беларускага народу.

Яго высілкі й адданнасьць у працы натхнялі беларускіх вайскоўцаў да змаганьня ў цяжкіх варунках, у пажарах двух сусьветных войнаў. І напэўна ў будучыні цярністы шлях па якім прыйшлося йсьці Памёршаму давядзе да аканчальнай перамогі нацыі, якую ён вёў і заклікаў за час свайго жыцьця да збройнага чыну.

На заканчэньне жалобна прагучэлі словы „Сьпі пад Курганам" якія прасьпявалі ў малітоўным паважным настроі ўсе прысутныя.

– *В. П.*

# „АЙЦЫ” БССР І ІХНЫ ЛЁС

А. КАЛУБОВІЧ

*(Пачатак і працяг у №№ 13 і 14)*

Абвешчаньне БССР ня спыніла расейскага вялікадзяржаўнага шавінізму ў КП(б)Б. Побач Магілёўскага губэрнскага камітэту КП(б)Б, які „единогласно присоединяется к мнению ЦК и ЦБ о необходимости выделения Белоруссии в самостоятельную республику"[81]; з боку іншых – паасобных сяброў партыі, цэлых партыйных арганізацыяў і іхных прэсавых органаў – гэты шавінізм і далей выяўляе сябе ў вадкрытай ваяўнічай варожасьці да права беларускага народу на нацыянальнае самавызначэньне ў кожнай форме, хоць-бы сабе й такой фікцыі беларускай дзяржаўнасьці як БССР.

Вось колькі прыкладаў таму. 7.1.1919 г. у "Извѣстіях Витебскаго Совѣта" друкуецца артыкул, у якім кіраўніцтва былой Заходняй камуны абвінавачваецца ў зрадзе сваім ранейшым прынцыпам. І "что, собственно, пикантного в этом вопросе, так это то, что наши областники раньше вели упорную борьбу с национализмом белорусов. Мы видели в "Звѣздѣ" ряд статей по этому вопросу. Прибывшие на 3-й областной съезд белорусы-коммунисты получили должный отпор. Прибывшие с целью добиваться переименования Западной области в Белорусскую, они не только не добились этого, но даже не смогли поставить этого вопроса. Больше того, товарищи областники обвинили витебских товарищей за связь с белорусами". Адзін із прамоўцаў на меставай партыйнай канфэрэнцыі ў Віцебску ў 1-ай палове студзеня 1919 г. заявіў, што самавызначэньне Беларусі ў інтарэсе толькі мясцовай інтэлігэнцыі, "выдумывающей Белоруссию". Другі катэгарычна цьвердзіў, што "ни один рабочий и крестьянин так называемой Белоруссии белорусом себя не считает, а искони знает в себе русского... а поэтому и речи быть не может о самоопределении Белоруссии". Таксама й Віцебская губэрнская канфэрэнцыя КП(б)Б у сярэдзіне студзеня 1919 г. у сваёй рэзалюцыі "самым решительным образом высказывается *против расчленения Советской России на ряд мелких „самостоятельных" республик". Абвешчаньне БССР канфэрэнцыя разглядае "как интеллигентскую затею, обязанную своим происхождением националистическому увлечению товарищей (из) Белорусского ко миссариата*". Партыйныя й савецкія кіраўнікі Віцебскай губ. зварочваюцца ў ЦК РКП(б) з патрабаваньнем: *БССР зьліквідаваць, а ЦБ КП(б)Б распусьціць*[82].

Такія настроі ў КП(б)Б змусілі кіраўнікоў КП(б)Б, бліжэй утаямнічаных у запраўдныя мэты нацыянальнай палітыкі ЦК РКП(б), раскрыць карты. Ужо на самой 6-ай абласной канфэрэнцыі дакладчык у пытаньні абвешчаньня БССР А. Мясьнікоў (ён толькішто вярнуўся з Масквы, куды яго ў гэтым пытаньні выклікалі), каб "местные товарищи согласились с доводами центра... в целесообразности *создания нового положения*"[83], хоць і разглядаў абвешчаньне БССР як якуюсь уступку Беларускім сэкцыям РКП(б), за галоўны матыў абвешчаньня выстаўляў *міжнародны фактар*. Заходнія дзяржавы даюць народам „буржуазнае самавызначэньне" (у раёне Заходняй камуны – гэта БНР і Летувіская манархія), яму трэба супрацьпаставіць самавызначэньне на базе савецкай улады. *„Нужно противоядие „союзным начинаниям"*, каторае-б із большым шансам магло *„замкнуть" „проход", праз які „силы черного интернационала" „устремляются на Советскую Россию"*[84]. Іншымі словамі: *калі-б ня было БНР, не тварылася-б і БССР;* БССР – гэта супрацьвага („противоядие") БНР, клін супраць БНР і прытым напачатку вылучна прапагандовы, без запраўднага жаданьня тварыць яе. Тымі-ж матывамі *палітычнай каньюктуры мамэнту* тлумачыў абвешчаньне БССР на згаданай Віцебскай губэрнскай канфэрэнцыі КП(б)Б сябра ЦБ (і ўраду БССР ад групы Заходняй камуны) Р. Пікель[85]; а таксама й другі сябра ЦБ (і ўраду БССР ад тэй-жа групы) С. Іваноў на Смаленскай губэрнскай канфэрэнцыі КП(б)Б, заявіўшы, што абвешчаньне БССР -- *гэта тактычны манэўр партыі з мэтаю паралізаваць палітыку вільсонаўскага лёзунгу самавызначэньня народаў, ужываную Заходнімі дзяржавамі*[86]. 24.9.1919 г. сакратар ЦК КП(б) Летувы й Беларусі В. Кнорын у газ. "Звѣзда" ў гэтай справе пісаў, што "Коммунистическая партия... *мотивировала* свой шаг *исключительно причинами международного характера*"[87].

Ні А. Мясьнікоў, ні іншыя кіраўнікі КП(б)Б *не паклікаліся* пры гэтым на самае галоўнае: *на права беларускага народу на нацыянальнае самавызначэньне.*

Зусім натуральна, што расейскі вялікадзяржаўны шавінізм у КП(б)Б ня мог не насьцярожваць беларусаў нацыянал-камуністых, якія ня зьбіраліся складаць зброі. У сваім намеры пераняць кантролю над БССР з рук КП(б)Б „яны (зноў–АК) *абмяркоўвалі пытаньне аб арганізацыі ў процівагу ёй Беларускай Камуністычнай партыі...* Разьбітыя ў пытаньні аб утварэньні сваё Камуністычнае партыі, яны *прабавалі* арганізаваць асобна прыяжджаючых з Савецкае Расеі беларусаў-камуністых і *тварыць нацыянальна-беларускія сэкцыі*"[88]. Але ЦБ КП(б)Б 15.1.1919 г. прымае пастанову пра ліквідацыю й Беларускіх сэкцыяў[89]. 17.1.1919 г. яно публікуе ў гэтай справе ў газ. "Звѣзда" афіцыйнае паведамленьне. У ім гаворыцца, што „некаторыя сябры партыі працягваюць называць сябе "беларускімі камуністымі" ... Яны вядуць нацыяналістычную агітацыю, уносяць дэзарганізацыю ў партыйную й савецкую працу. Таму мясцовым партыйным арганізацыям прапануецца лічыцца толькі з ЦБ і мясцовымі камітэтамі Кампартыі Беларусі... а Беларускія камуністычныя сэкцыі ліквідуюцца, выдадзеныя імі партыйныя сяброўскія білеты губляюць сваю сілу"[90].

16.1.1919 г. (праз 2 тыдні па абвешчаньні БССР) *ЦК РКП(б) пастанаўляе адарваць ад БССР 3 губэрні – Віцебскую, Смаленскую й Магілёўскую – ды далучыць іх да РСФСР*[91]. Каб правесьці пастанову ў жыцьцё, з Масквы ў Менск камандыруецца прадстаўнік ЦК Іофэ.[92]

Маскоўская пастанова ў Менску здалася нагэтулькі неверагоднай і няпрыймальнай, што ніякія аргуманты Іофэ на спэцыяльным паседжаньні ЦБ КП(б)Б 22.1.1919 г. не маглі пераканаць нават прамаскоўскае ЦБ, якое ў поўнасьці з пастановаю ЦК не згадзілася. Калі пра гэта было паведамлена ў Маскву, стуль 26.1.1919 г. ад Я. Сьвярдлова прыйшла тэлеграма: „...Цэка пацьвярджае сваю папярэднюю пастанову, выказаную тав. Іофэ..."[93] Тады ЦБ КП(б)Б 27.1.1919 г. дэлегуе ў Маскву 2-ох сяброў ЦБ да Леніна. *Ленін, які на паседжаньні ЦК РКП(б) 16.1.1919 г. сам галасаваў за гэтую пастанову, у просьбе дэлегацыі адмовіў*[94]. Дэлегацыя не пасьпела даехаць да Менску, як ад Я. Сьвярдлова 30.1.1919 г. на імя старшыні ўраду З. Жылуновіча прыйшла новая тэлеграма ў дыктатарскім тоне: „Дэлегатам Цэбэ было рашуча адмоўлена ў вадмене пастановы Цэка. Пацьвярджаю: Віцебская, Магілёўская, Смаленская губэрні адыходзяць; у Беларусі застаюцца дзьве губэрні – Менская й Горадзенская[95]. *Дадаю пастанову Цэка правесьці на зьезьдзе Беларусі аб'яднаньне зь Летуваю...* Сёньня па прамым провадзе ў мяне пыталіся з Магілёва са зьезду пра пастанову Цэка аб іхнай губэрні. Паведамілі тэлеграмы Вашы й Цэбэ. Лінія Цэка і там пройдзе бясспрэчна. У Віцебску таксама. Смаленск пад сумнівам, але падпарадкаваньне будзе бязумоўнае, як і на зьезьдзе ў Менску"[96].

Ужо ў канцы студзеня 1919 г. Магілёўская, Віцебская й Смаленская губэрні, а таксама 4 паветы Чарнігаўскай, адышлі да РСФСР. Гэты бесцырымонны акт гвалту й грубага парушэньня сувэрэнных правоў беларускага народу й новая, на прапазыцыю Леніна[97], пастанова ЦК РКП(б) пра аб'яднаньне рэшты БССР зь Летувіскай ССР у вадну г.зв. ЛітБел, што фактычна ёсьць ліквідацыяй БССР, выклікалі ўва Ўрадзе БССР крызыс. *На знак пратэсту супраць такіх мэтадаў паступаваньня Масквы зь Беларусьсю* ( як і папярэднія забаронаў тварыць БКП, роспуску Беларускіх камуністычных сэкцыяў, недапушчэньня ў БССР беларускае прэсы[98] й г.д.) у канцы студзеня 1919 г. *Урад БССР пакідаюць тры наркомы – Ф. Шантыр, У. Фальскі й Я. Дыла*[99].

ЦБ КП(б)Б і сябры ўраду ад групы Заходняй камуны ў духу патрабаваньняў Леніна й Сьвярдлова арганізоўваюць старанны падбор дэлегатаў на 1-шы зьезд саветаў БССР. Таму на зьездзе, які адбыўся 2–3.2.1919 г. у Менску, былі дэлегаты ня выбраныя дэмакратычным спосабам і ў няправільнай прапорцыі ад паасобных губэрняў (121 – ад Менскай, 11 – ад Горадзенскай, 25 – ад Вялейскага пав. Віленскай), а таксама ад губэрняў, якія ўжо адыйшлі ад БССР (48 – ад Смаленскай, 10 – ад Магілёўскай, 0 – ад Віцебскай) і 7 – ад уцекачоў. 213 зь іх – сябры КП(б)Б, а рэшта – „спачуваючыя ёй"[100]. Нічога дзіўнага, што групу беларускіх нацыянал-камуністых на зьезьдзе спаткаў поўны разгром.

Зьезд апрабуе ўсе, прадыктаваныя ЦК РКП(б), вымогі: абвешчаньне БССР; адарваньне ад яе Віцебскай, Смаленскай, Магілёўскай і часткі Чарнігаўскай губэрняў, далучаных да РСФСР; неадкладны ўваход рэшты БССР у РСФСР і, ўрэшце, ліквідацыю БССР, ці зьліцьцё яе зь Летувіскай ССР у вадну для абодвых народаў ЛітБел, каб супольна змагацца зь „Летувіскай Тарыбай і Беларускай Радай", якія нібы „выступаюць супраць работнікаў і сялянаў Беларусі й Летувы адзіным контррэвалюцыйным фронтам"[101]. Выбраны зьездам ЦВК БССР стварае 5.2.1919 г. пад старшынствам А. Мясьнікова *новы Ўрад БССР ня толькі бяз Ф. Шантыра, У. Фальскага й Я. Дылы, але й бяз З. Жылуновіча, А. Чарвякова й А. Квачанюка*[102]. Із групы был. Беларускіх сэкцыяў РКП(б) у новым урадзе застаюцца ўсяго З. Чарнушэвіч і І. Пузыроў[103].

У той-жа дзень (5.2.1919 г.) газэта "Звѣзда" ў рэдакцыйным артыкуле "К итогам съезда Советов Белоруссии" сваім чытачом тлумачыць: "Почему съезд ограничился только пожеланием о вступлении в Российскую Советскую федерацию, почему он *сразу* не претворил в дело *свое пожелание о полном объединении с Россией?* Для этого были *очень* и *очень важные причины международно-политического характера*. Перед Белоруссией был поставлен вопрос, *как она принесет больше пользы...* существуя как самостоятельная республика или сливаясь с РСФСР. И после зрелого и всестороннего обсуждения данного вопроса... политическая мкдрость говорит нам, что мы должны *пока* существовать самостоятельно"[104]. Разам з тым, працягвае артыкул, "*съезд потвердил, что потуги белорусской националистической интеллигенции к созданию „своего" белорусского языка, „своей" национальной культуры напрасны... Пусть примут это к сведению* белорусские писатели"[105].

27.2.1919 г. на апошнім, сумесным паседжаньні ЦВК БССР і ЦВК Летувіскай ССР спынілі сваё існаваньне БССР і Летувіская ССР. На іхным месцы творыцца новы прадукт нацыянальнай палітыкі РКП(б) – Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Летувы і Беларусі (ЛітБел, із сталіцаю ў Вільні). *У кіруючыя органы гэтай новай рэспублікі ня ўводзіцца ніхто із беларусаў*[106].

За тры дні перад тым, 24.2.1919 г., выходзіць апошні, № 5/49 „Дзяньніцы" ў Маскве. У ім чытачом паведамляецца, што „наша газэта зачыняецца, і гэты нумар зьяўляецца разьвітальным. Замест яе, – выказвае надзею рэдакцыя, будзе арганізавана камуністычная газэта на беларускай мове ў адным з цэнтраў Беларускай Савецкай Рэспублікі: у Менску ці ў Вільні"[107]. У сакавіку ліквідуецца й Белнацком[108]. *Агэтуль на ўсім савецкім баку лініі фронту ўжо няма ніякае беларускае прэсы*[109] (пасьля столькіх беларускіх газэт і часапісаў у БНР!) *і ніякіх беларускіх савецкіх установаў.*

Ліквідацыя БССР і тварэньне ЛітБелу ня прынесьлі для РКП(б) спадзяванага эфэкту. А ўжо што казаць пра беларусаў і летувісаў. Гаспадарчы хаос, голад, беззаконьне й тэрор шалелі з тэй-жа лютасьцю. Усё гэта выклікала ў Беларусі новую хвалю антысавецкіх паўстаньняў: у сакавіку – Рагачоўскае[110], Кармянскае[111], Гомельскае й Рэчыцкае[112], у красавіку – Слуцкае й Старобінскае[113], Нясьвіскае[114], Барысаўскае[115], Полацкае[116] й іншыя.

У бальшавікоў зямля гарэла пад нагамі. У гакіх акалічнасьцях польскае войска, падтрыманае заходнімі аліянтамі, пачынае наступ на ЛітБел, хутка пасоўваючыся на ўсход. 21.4.1919 г. яно займае Вільню, скуль урад ЛітБелу эвакуюецца ў Менск; а 17.7.1919г., калі зь літбелаўскай тэрыторыі на савецкім баку застаецца колькі ўсходніх паветаў Меншчыны, ЦК РКП(б) распускае кіруючыя органы ЛітБелу, перадаючы ўладу ў гэтых паветах Менскаму губэрнскаму Вайскова-Рэвалюцыйнаму Камітэту (ВРК) у Бабруйску. ЛітБел перастала існаваць.

8.8.1919 г. палякі займаюць Менск і йдуць далей на ўсход да лініі р. Заходняя Дзьвіна – Полацк – Лепель – Барысаў – Рагачоў – Жлобін. ВРК выяжджае ў Смаленск.

У няспрыяльных умовах польскае акупацыі Рада й Урад БНР дзеюць у кірунку аднаўленьня БНР. Хутка ўмовы гэтыя спрычыняюць чарговую ініцыятыву ў заснаваньні БКП. У скрайняй апазыцыі да польскай акупацыі БНР, 1.1.1920 г. ад беларускай партыі эсэраў (БПС–Р), аднэй із партыяў Рады БНР, адкалолася найбольш левая група („Маладая Беларусь") і перайменавалася ў *Беларускую Камуністычную Арганізацыю* (БКА). Узначаленая некаторымі выкладчыкамі й студэнтамі Беларускага Пэдагагічнага інстытуту ў Менску, настаўнікамі й грамадзка-культурнымі працаўнікамі – У. Ігнатоўскім, Я. Каранеўскім, А. Сташэўскім, М. Гурыным (Маразоўскім), Л. Родзевічам, М. Кудзелькаю (Чаротам), А. Капуцкім і іншымі – яна йдзе ў падпольле й арганізоўвае супраць польскіх вайсковых гарнізонаў партызанскі рух. Баявыя „сялянскія дружыны" БКА, кіраваныя ейным Беларускім Паўстанскім Камітэтам, дзейнічаюць у Менскім, Слуцкім, Ігуменскім, Слонімскім, Горадзенскім, Лідзкім і Дзісенскім паветах[117].

У ліпені П пач. жнівеня 1920 г. Чырвоная армія зноў займае сярэднюю й заходнюю Беларусь, ідучы на Варшаву. Але 17-га жнівеня польская армія пачала контрнаступ, змусіўшы яе да адступленьня на ўсход. У вабарону БНР узьнімаюцца новыя паўстаньні: у ліпені месяцы – Койданаўскае (г. зв. 4-охдзённая „Койданаўская Незалежная Рэспубліка")[118] і 27.11. – 28.12.1920 г. найбольшае – Слуцкае, Каля 10,000 паўстанцаў, зарганізаваных у 2 палкі (Слуцкі й Грозаўскі), на чале Рады Случчыны (старшыня – адвакат У. Пракулевіч) і пад камандаю вайсковага штабу палк
(палк. Гаўрыловіч, кап. кап. А. Сокал-Кутылоўскі, Анцыповіч, Семянюк, маёр Якубецкі й інш.) у баёх з аддзеламі 16-ай савецкай арміі болей за месяц утрымліваюць уладу БНР у 15 валасьцёх Случчыны (цяперашніх Слуцкім, Капыльскім, Салігорскім, Чырвонаслабодзкім і ўсходніх частках Клецкага й Нясьвіскага раёнаў)[119].

ЦК РКП(б) дзеля няўдачы зь ЛітБел'ам, а мо й пад ціскам антысавецкіх паўстаньняў вырашае зноў зьмяніць сваю нацыянальную палітыку ў беларускім пытаньні й вярнуцца *назад да канцэпцыі БССР*. І вось: як бяз удзелу беларускага народу 1-шы зьезд саветаў БССР, на вымогу ЦК РКП(б), пастанавіў зьліквідаваць БССР, так бяз удзелу народу 31.7.1920 г., з апрабаты тагож ЦК, на сумесным паседжаньні неразьвязанага ЦК КП(б) Летувы й Беларусі з прадстаўнікамі БКА, Бунду й прафсаюзаў Менскай губ. прымаецца „Дэклярацыя" пра *2-ое абвешчаньне БССР*. Уся ўлада, паводля дэклярацыі, перадаецца ВРК БССР з 5-ёх асобаў – А. Чарвякова, Я. Адамовіча й В. Кнорына (ад КП(б) Летувы й Беларусі), У. Ігнатоўскага (ад БКА) і А. Вайнштэйна (ад Бунду)[120]. 2-гі зьезд саветаў БССР, скліканы на 13–17.12.1920 г. у Менску, дзе, як і на 1-ым зьезьдзе саветаў, былі дэлегаты не выбраныя дэмакратычным спосабам і толькі з аднае (і то няпоўнае) Менскае губ., зацьвярджае 2-ое абвешчаньне БССР і выбірае ЦВК на чале з А. Чарвяковым. *Тэрыторыю гэтай 2-ой БССР, яшчэ большай фікцыі Беларускай дзяржаўнасьці, ЦК РКП(б) абмяжоўвае ўсяго да 6 паветаў аднае Менскае губ.*[121] з плошчаю ў 52.3тысячы кв. клм. і з насельніцтвам у 1,544,000 чалавек[122].

*Беларуская Камуністычная Арганізацыя, як самастойная партыя, у БССР не дазваляецца,* і ў жнівені месяцы 1920 г., на прапазыцыю А. Чарвякова[123], яна ўлучаецца ў КП(б) Летувы й Беларусі (ад 5.9.1920 г. – у вадноўленую КП(б)Б).

Ад гэнага часу ў самой КП(б)Б да былых сяброў Беларускіх сэкцыяў РКП(б) і БКА далучаюцца іншыя адказныя беларускія камуністыя – Я. Адамовіч, А. Баліцкі, З. Прышчэпаў і г. д. У 1920-ых гг. беларусы, падтрыманыя імі, „айцамі" 1-ае й 2-ое БССР, легальнай дарогаю дамагліся часткавага пашырэньня тэрыторыі БССР і пэўных мажлівых посьпехаў у вадбудове гаспадаркі й разьвіцьці нацыянальнай беларускай культуры, навукі й мастацтва.

---

81) Рэзалюцыя, апублікаваная ў газ. "Звѣзда" 31.1.1919 г. (Там-жа, б.200).

82) Там-жа, бб.198–201 ("Извѣстія..." за 7,16 і 22 студзеня 1919 г.).

83) Тая-ж тэлеграма А. Мясьнікова ў Маскву ад 1.1.1919 г. (Там-жа, б.184).

84) Пратакол 1-га з'езда Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі, Менск, 1934 г., б.15 (Там-жа, бб.183–184).

85) "Извѣстія..." за 22.1.1919 г. (Там-жа,б.205).

86) "Извѣстія Смоленского Совѣта" за 26.1. 1919 г. (Там-жа).

87) Круталевіч, там-жа, б.184.

88) Сакратар ЦК КП(б)Б В. Кнорын. У час паміж нямецкай і польскай акупацыямі – зб. „Кастрычнік на Беларусі", улажыў С. Агурскі, вып. 1, Менск, 1927 г., б.287.

89) БелСЭ, т.2, б.260.

90) Круталевіч, там-жа, б.190 (У нас цытуецца пераказ „паведамленьня" словамі Круталевіча).

91) Я. Шкляр. Старонкі гераічнай гісторыі – Полымя, 1966 г., №3, б.134.

92) Там-жа; Я. М. Свердлов. Избранные произ ведения, т.3, Москва, 1960 г., б.231.

93) Свердлов, б.139.

94) В. Круталевіч у вартыкуле „Пасля абвяшчэння рэспублікі" (бб.133–135), на аснове пратаколу справаздачы дэлегацыі паседжаньню ЦБ 31.1.1919 г., узнаўляе гэтыя перамовы зь Ленінам.

95) Прычым, із Горадзенскай губ. – толькі ўсходняя ейная частка; заходняя із самою Горадняй будзе занятая Чырвонай арміяй на кароткі час адно ў ліпені 1920 г.

96) Свердлв, бб.142–143.

97) БелСЭ, т.6, 1972 г., б.396; т.12, б.199.

98) ЦБ КП(б)Б у гэтай справе была прынятая пастанова: „Выданьне беларускае газэты прызнаць непажаданым" – Круталевіч. Пасля абвяшчэння рэспублікі, б.141.

99) Кнорын, там-жа.

100) Турук, б.45 ("Звѣзда" №364 за 4.2.1919 г.).

101) Шкляр, б.135.

102) Заміж іх, у новы ўрад уводзяцца: П. Пятроў – нарком замежных справаў, Мандэльштам – нарком нацыянальных справаў, Н. Сьвярдлоў – нарком працы, І. Саваціяў – нарком асьветы й А. Гэтнэр – нарком юстыцыі (В. Круталевіч. Першы беларускі ўрад – Полымя, 1966г., №1, б.139).

103) Там-жа, б.140.

104) Круталевіч. Пасля абвяшчэння рэспублікі, бб.139–140.

105) Круталевіч. На імя Леніна, б.106.

106) Ад был. групы Заходняй камуны ў Прэзыдыюм ЦВК ЛітБелу ўвайшлі Іваноў і Пікель, а ўва ўрад – Калмановіч, Савіцкі, Розэнталь і Бэрсан – БелСЭ, т.6, бб.396–397.

107) С. Александровіч. Першая беларуская савецкая газета – Полымя, 1968 г., №4, б.226.

108) БелСЭ, т.2, б.243.

109) Паводля пастановы ЦК злучанай КП(б) Летувы й Беларусі, ейнымі прэсавымі органамі ў ЛітБел былі газэты "Звѣзда" парасейску, "Młot" папольску, "Komunistas" палетувіску й "Штэрн" пажыдоўску – Очерки..., б.358.

110) БелСЭ, т.10, б.496; т.9, б.17.

111) Там-жа, т.10, б.496; час. „Беларусь", Мінск, 1960 г., №11, б.5.

112) БелСЭ, т.10, бб.73–74; Полымя, 1973 г., №12, бб.154–156; Гісторыя БССР, АН БССР, т.3, Мінск, 1973 г., бб.161–162.

113) Полымя, 1966 г., №4, б.111; 1968 г., №11, б.164.

114) Там-жа.

115) Там-жа, 1966 г., №4, б.111.

116) БелСЭ, т.8, б.485.

117) Турук, б.61 (Тут БКА завецца: Камуністычная арганізацыя беларускіх сялянаў і работнікаў); У. Ігнатоўскі. Камуністычная партыя Беларусі і нацыянальнае пытаньне – Зб. „Беларусь" пад рэд. А. Сташэўскага, З. Жылуновіча, У. Ігнатоўскага, выд. ЦВК БССР, Менск, 1924 г., б.231; БелСЭ, т.12, 1975 г., б.140.

118) Гл. артыкул І. Шпілеўскага й Л. Бабровіча ў час. „Наш Край", Менск, 1929 г., №3/42; Ю. Віцьбіч. Як зьявіўся на мапе Беларускі Дзяржынск – газ. „Бацькаўшчына", №25/26(104/105) за 29.6.1952 г.

119) Я. Найдзюк. Беларусь учора і сяньня, Менск, 1944 г., бб.179–183; БелСЭ, т.9, бб.593 і 595.

120) БелСЭ, т.4, 1971 г., б.357; Ігнатоўскі, там-жа.

121) Няпоўных Менскага, Барысаўскага, Слуцкага й Мазырскага паветаў, Ігуменскага й Бабруйскага. Часткі першых 4-ох паветаў і паветы Наваградзкі й Пінскі Менскай губ. у жнівені месяцы 1920 г. адыйшлі пад Польшчу.

122) БелСЭ, т.10, б.432.

123) Полымя, 1971 г., №5, б.156.

*(Працяг будзе)*

# І ЯШЧЭ ДВА ПАВЕТЫ

Выйшла нядаўна (1978) ў сьвет кніга былога віцэ-пракурора да палітычных справаў, пры віленскім акруговым судзе, Багдана Кавэцкага, пад загалоўкам – „З вандровак віленскага пракурора."

Кніга хаця бяз літэратурна-мастацкага значэньня, тым ня менш напісана лёгкім стылем і можа быць даволі цікавай для кола чытачоў зьвязаных з віленскім судоўніцтвам, а таксама для абзнаямленьня з віленскім жыцьцём з часоў міжваеннай акупацыі Заходняй Беларусі Польшчай, даючы добрую ілюстрацыю псыхікі вярхоў акупацыйных уладаў

Аўтар Б. Кавэцкі гэта тыповы польскі шавініст з міжваеннага пэрыяду, хаця сам аўтар стараецца сябе прадставіць, як лібэрала, прынамсі ў адносінах да Жыдоў.

Адносна іншых нацыяў, у першую чаргу Беларусаў, дык падобна, як у іншай кнізе з гэтага самага жанру ўспамінаў – кнізе ксяндза Валерыяна Мэйштовіча – „Пайшло з дымам", абодва аўтары не заўважываюць існаваньня Беларусаў.

Калі справа датычыць В. Мэйштовіча, дык будзе на мейсцы ўспомніць, што гэта сын Аляксандра Мэйштовіча, міністра юстыцыі ў хуткім часе пасьля пучу Пілсудзкага ў 1926 годзе, аднаго з выдатных грамілаў беларускага руху, а ў даўнейшым мінулым рэпрэзэнтантам польскага грамадзтва на адкрыцьці памятніка царыцы Кацярыне II, на катэдральным пляцы ў Вільні.

Вось-жа вялікага абшарніка Мэйштовіча й меншага Кавэцкага аб'ёднывае супольная псыхічная рыса – нябачаньне Беларусаў.

З праўдзівай дзеля гэтага прыемнасьцяй прачытаў у кнізе Кавэцкага, што ён пераканаўся аднак у існаваньні Беларусоў – пераканаўся падчас пабыту ў Аргэнтыне.

Недзе на пачатку пяцідзясятых гадоў Б. Кавэцкі зарганізаваў у Аргэнтыне два рэфэраты аб польска-жамойдзкіх суадносінах. Адзін рэфэрат прачытаў Паляк, а другі Жамойдзец гэнэрал Даўкант. Пасьля рэфэрату Даўканта ўзьнялася дыскусія, якая вельмі хутка завастрылася на толькі, што выйшла з пад кантролі старшыні сходу Сп. Кавэцкага.

Далей цытую Б. Кавэцкага:

„Ужо я ня ведаў, што рабіць, як раптам зьявіўся збаўца. Недзе з задніх радоў праціснуўся на перад залі й ня просячы голасу закрычэў пабеларуску – 'Паны Выязджайце зь Вільні ў Карону. Жамойцы! Выбірайцеся на Жамойдзь! Вільня нашая – беларуская....'."

Шкада, што вестка прыйшла так позна; шкада, што пракурор Кавэцкі мусіў прайсьці праз савецкія лягеры, Бліскі Усход і трапіць у Аргэнтыну, каб даведацца гэтую простую праўду, што польская энкліва на беларускай тэрыторыі не павінна дзяліць цэласьці беларускай этнаграфічнай тэрыторыі.

Пры нагодзе трэба сказаць, што В. Кавэцкі стараецца ўпрыгожыць польскую міжваенную запраўднасьць, калі напрыклад піша, што хабарніцтва судзьдзяў у Польшчы было меншае чым тут і што працэсы аб надужыцьцях можна палічыць на пальцах. Гэта можа й так, але-ж і польская дзяржава была меншая, ды бяда што Б. Кавэцкі не выкарыстоўвае нават сваіх пальцаў.

За маёй памяцяй быў выпадак, што абвінавачаны ў дэфраўдацыі грошай, судовы выканаўца, у часе сьледзтва асьветчыў, што здэфраўдаваныя грошы прайграў у карты. Ціж-бы працуючы ў пракуратуры – пракурор пра гэта ня чуў?

Нічога дзіўнага, што ў прадмове многа цёплых словаў сказана пра Язэпа Пшылускага – пракурора ў справе Грамады, а пазьней старшыні апэляцыйнага суду ў Вільні. Хто-ж гэта Пшылускі? Польскі шавініст прасьледавальнік Беларусоў і пэрсанальна, асоба вельмі несымпатычная, і, трэба да гонару польскага судоўніцтва сказаць, нялюбёная й польскім судоўніцтвам. З польскімі законамі можна было-б яшчэ жыць, але нажаль польская пракуратура, й ніхто іншы, нядбала каб яны выконваліся.

– *В. Петкевіч*

# Беларускае вясельле ў Дэтройце



*Марыся Э. Плескач і Стывэн Г. Сутэрлэнд*

У суботу 15-га ліпеня сёлета, у Украінскай Праваслаўнай Катэдры Пакровы Божай Маці ў Саўтфілд, Міч., адбыўся сьлюб Спадара Стывэн Гарры Сутэрлэнд са Спадарышняй Марысяй Элізабэт Плескач.

Таінства сьлюбу выканаў Яго Высокапрэасьвяшчэнства Архіяпіскап Мікалай у саслужэньні а. Максіма, Настаяцеля Прыходу Св. Духа ў Дэтроіце пры ганаровым удзеле а. Прат. Нэстора Столярчука, Украінца.

Вельмі прыгожа сьпеваў Украінскі царкоўны хор. Апостала чытаў бацька маладой Марысі Сп. Маг. Васіль Плескач.

Пасьля сьлюбу ўсе запрошаныя госьці ў ліку 350 асобаў перашлі да вялікай і прыгожай салі Украінскага Праваслаўнага Сабору, дзе адбыўся багаты вясельны абед.

Падчас вясельнай бяседы, Сват Сп. Др. Барыс Рагуля, павітаў гасьцей, якія прыехалі на вясельле з розных мейсц ЗША й Канады, а маладым пажадаў многа шчасьця й удачаў у новым супольным і згодным жыцьці.

„Мне вельмі прыемна бачыць тут вялікую колькасьць гасьцей, якія прыехалі з далёкіх частак нашай вялікай Краіны ЗША, каб павітаць маіх дзяцей з новым і шчасьлівым жыцьцём.” гаварыў Спадар Сутэрлэнд, бацька маладога Стывэна.

Сп. Маг. Васіль Плескач горача вітаў маладых ад сябе й ад Спадарыні Тацьяны, жадаючы маладым многа шчасьця, ўзаемнай любові й зразуменьня. Ня менш горача ён вітаў сваіх знаёмых і прыяцеляў з далёкай Наваградчыны, найбольш мілай ягонаму сэрцу, якія прыехалі да Дэтроіту разьдзяліць з ім Ягонае вялікае сямейнае сьвята.

Апрача агульных прывітаньняў Сп. Др. Барыс Рагуля паінфармаваў гасьцей аб галоўных гэроях сяньняшняй слаўнай вясельнай урачыстасьці.

Спадарыня Марыя, наймалодшая дачка Тацьяны й Васіля Плескач, ёсьць абсальвэнткай двух факультэтаў Унівэрсытэту Мічыган, а цяпер студэнткай пятага сэмэстру мэдыцыны гэтагож Унівэрсытэту. У травені 1980 году закончыць навуку й атрымае стопень доктара мэдыцыны.

Спадарыня Марыся Плескач, яшчэ будучы ў сярэдняй школе, папулярызавала беларускую справу: пісала й інфармавала студэнтаў і настаўнікаў аб Беларусі. Будучы ў Унівэрсытэце прыймала актыўны ўдзел у розных імпрэзах, рэпрэзэнтуючы беларусаў. Была дзейная ў арганізацыі Паняволеных Народаў. Марыя, між іншым, была выбрана каралевaю Паняволеных Народаў у Дэтроіце.

Стывэн Сутэрланд закончыў біялёгічны факультэт Стэйтовага Унівэрсытэту ў Мічыгэн, атрымаў мастэр дэгры, а цяпер студуе дэнтыстыку ў Дэтроіцкім Унівэрсытэце.

Маладыя Марыя й Стывэн належаць да Парафіі Св. Духа ў Дэтроіт, Мічыган. Малады Стывэн прыняў праваслаўе 25-га чырвеня 1978 г. Прыняцьце праваслаўя выканаў Яго Высокапрэасьвяшчэнства Арх. Мікалай у саслужэньні а. Максіма й а. Грыгора.

У нядзелю пасьля службы Божай, у БАПЦ ў Дэтроіт усе прыяцелі й знаёмыя маладых і іхніх бацькоў былі запрошаныя на абед, які адбыўся ў прыватным доме Спадарства Тацьяны й Васіля Плескач, у вялікім і прыгожым „рэнчы” на Норманды ў Роял Оак у Дэтроіце.

Варта зацёміць, што ў нядзелю ў доме Спадарства Плескачоў адбылася, як-бы сустрэча, значнай часткі беларусаў расьцярушаных на тэрыторыі ЗША й Канады.

*— М. Гарошка*

Сьвятой  Памяці

## БАРБАРА САЖЫЦ

21-га ліпеня сёлета прадчасна адышла ў іншы сьвет БАРБАРА САЖЫЦ, з дому Мазуро. Пахавана на беларускім могільніку ў Ню Брунсвіку 25-га ліпеня.

Яна пакінула ў глыбокім смутку мужа, дзяцей, матку, 2-х братоў, сястру, родных і ўсю беларускую калёнію ў Дэтроіце.

Рэдакцыя газэты *Беларускі Час* выказвае свае як найглыбейшыя спачываньні ўсей сямьі с.п. Барбары.

Няхай Усемегутны Бог аселіць Яе душу там, дзе спачываюць усе праведнікі.

*Рэдакцыя „Б. ЧАСУ”*

# З Жалобнай Хронікі Дэтройту

*(працяг з 5-й бачынкі)*

усім сяброўкай і вернай прыхажанкай.

У сваёй глыбока зьмястоўнай і ўзрушаючай пропаведзі ў ангельскай мове айцец Грыгор надзвычайна трапна акрэсьліў памершую, сказаўшы, што яна цяпер адыйшла ў іншы сьвет, каб перад Прастолам Усемагутнага быць заступніцай нас усіх і яе сямьі, якую лёс судзіў ёй пакінуць перадчасна.

Памершая была заступніцаю нашых агульных справаў на зямлі й на векі астанецца ёю ў другім загробным сьвеце.

Усе са сьлязамі й праўдзівым няўкрываным жалям з малітвамі правялі памершую да машыны, якая чакала на яе, каб даставіць да самалёту ў Ню Бранзвік, дзе адбыліся яе пахавіны на беларускім могільніку сярод тых братоў і сёстраў якім лёс судзіў закончыць жыцьцё ў чужой краіне.

Сямьі Нябошчыцы, матцы, мужу, сыну й дачцы з унучкаю а таксама братом з семьямі й сястры, ўся беларуская калёнія Дэтройту, яшчэ раз складае свае найглыбейшыя спачуваньні з нагоды перадчаснай сьмерці с.п. Барбары.

Хай ім будзе пацехаю ў гэтай балючай страце словы а. Грыгора й глыбокая вера старэнькай маткі Барбары, якая сказала „Ня трэба плакаць, бо плач не паможа, а трэба маліцца за душу супачыўшай”.

І напэўна св. памяці Барбара будзе цешыцца на тым сьвеце, калі другія самаахвярна будуць прадоўжываць працу, якую яна не закончыла за час свайго жыцьця.

*— В. П.*

# Атрымаў сярэднюю асьвету

Сын актыўных і вядомых бацькоў, Мікалая й Анны Войтэнкаў, Лявон з Самэрсэт, Ню Джэрзі, закончыў Франклін Гай Скул з адзначэньнем (Нашэнэл Гай Скул Славік Онор Соцаеты) і прыняты на аддзел „Індастрыэл Артс Эдукэйшэн” у Трэнтонскі Штатны Калэдж.

Апрача добрых посьпехаў у навуцы, Лявон ёсьць актыўным у царкоўным і нацыянальна-грамадзкім жыцьці нашага асяродку.

Пачынаючы ад пятага году свайго жыцьця, ён безперапынна прыслужвае ў мясцовай Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве. Улічваючы ягоную пільнасьць і адданасьць, Уладыка Мітрапаліт Андрэй у 1975-м г. узьвёў яго ў сан Іпадыякана.

Лявон таксама ёсьць дзейным у мясцовым Аддзеле АБАМ і ад малых гадоў належыць да Танцавальнае Групы гэтага-ж Аддзелу.



*Лявон Войтэнка*

Будучы яшчэ зусім малым, Лявон пачаў цікавіцца ўсялякай машынэрыяй, а цяпер часта дапамагае суродзічам і знаёмым, якія маюць пэўныя праблемы са сваімі самаходамі. А па аўтамабільных справах ён знаецца як стары й дасьведчаны мэханік. Але бадай што найбольшай заслугай Лявона ёсьць тое, што ён ніколі й нідзе ня стыдаецца гаварыць пабеларуску, й, ня ў прыклад іншым сваім равесьнікам, заўсёды аддае належную пашану старэйшым.

Дзеля вышэйсказанага: сваякі, прыяцелі й знаёмыя, паважанай Сям'і Войтэнкаў, шчыра жадаюць іхняму сыну Лявону, як найбольшых посьпехаў у ягонай далейшай навуцы.

*— В. С.*

## ПАПРАЎКА

У 14-м нумары газэты *Беларускі Час* на 8-ай бач., у артыкуле: „Генэрал Францішак Кушаль” пад Ягонай фотаграфіяй напісана: „Партрэт Мастака Пётры Мірановіча” замест: „Партрэт Ф. Кушаля, работы Мастака Пётры Мітановіча.

*Рэдакцыя*

## ПАДЗЯКА

Гэтаю дарогаю маю вялікі гонар выказаць сваю шчырую падзяку ўсім парафіянам, парафіянкам і прыяцелям, якія з нагоды маіх урадзінаў і імянінаў зладзілі прыгожае прыняцьце й выказалі многа мілых прывітаньняў, а нарэшце, зламылі для мяне шчодрыя дарункі.

З хрысьціянскаю любоўю, шчыраю падзякаю й малітвамі да Госпада Бога за Вашае здароўе й шчасьце, застаецца

Ваш, а. Максім.

## ПАРАФІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў НЮ ЁРКУ

*(працяг з 4-й бачынкі)*

БАПЦ, Сп. Уладзімір Русак, Сп. Антон Шукелайць, Сп. Уладзімір Бортнік, ранейшы ўдзельнік заснаваньня БАПЦ у Нямеччыне.

Малітвай і багаславенствам Уладыкі Мітрапаліта закончылася сьвяткаваньне.

Шкада, што суседняя парафія Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парк, парушыла дамоўленасьць супольнага сьвяткаваньня й сёлета мела Божую Службу ў сябе дома. Будзем спадзявацца, што ў наступным годзе зноў будзем сьвяткаваць нашы парафіяльныя сьвяты разам, падкрэсьляючы сваю братэрскую любоў да нашае Сьвятое БАПЦ.

*— В. Р.*